№ I (8) красавік 1989



# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ



RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

## БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

### СЬВЕТ, У ЯКІМ ЖЫВЁМ

Зусім нядаўна я з жахам даведаўся, што мой халадзільнік не зьяўляецца такой нявіннай і няшкоднай прыладай. Вучоныя даказалі, што хімічныя рэчывы, якія ўжываюцца да ахалоджваньня, зьяўляюцца адной з прычынаў "дзірак" у азонным слаі, які акружае зямлю і ахоўвае яе ад шкодных сонечных праменяў, прапускаючы толькі прамені карысныя і патрэбныя да жыцьця.

Справа з халадзільнікам, магчыма з прычыны сваёй сваёй на першы погляд нязначнасьці, дала мне адчуць, што сьвет, у якім жывём- адзін і што мы залежныя адзін ад другога і ад навакольнага асяродзьдзья. Усьведамленьне гэтага змушае мяне адносіцца з асьцярожнасьцю да г.зв. навукова-тэхнічнага прагрэсу. Розум людзкі- цудоўны дар Божы, дзякуючы якому пазнаем навакольны сьвет. Аднак у практычным прымяненьні здабытых ведаў існуе небясьпека, што з прычыны нашай абмежаванасьці мы, пры найлепшай волі, не заўсёды можам прадбачыць усе вынікі нашай дзейнасьці, асабліва на далейшую мэту. Сапраўдная трагедыя паўстае, калі мы паступаем безадказна, бяздумна, або думаючы толькі пра асабістую карысьць. У многіх выпадках вынікі такой дзейнасьці непапраўныя. Яны жывуць у наступных пакаленьнях. Для беларусаў, якія павінны жыць з наступствамі Чарнобыльскай трагедыі, гэтага ня трэба тлумачыць.

Сказанае вышэй ня новае: мы ўсе адчуваем на сабе глыбока ўкаранёны ў нашай людзкой прыродзе вынік учынку нашых першых прабацькоў, які мы завем першародным (або "радзімым) грахом.

Не ўглыбляючыся ў дакладны характар першароднага граху, можна сказаць, што гэта было сьцьверджаньне самавыстарчальнасьці чалавека ў адносінах да Тварца, жаданьне "быць як Бог, ведаць дабро і зло"(Быцьцё 3:5) У сутнасьці гэта было запярэчаньне патрэбы Бога, а адтуль толькі адзін крок да запярэчаньня самога Яго існаваньня. У выніку, як добра сказаў нядаўна адзін беларус, "у бязбожнага чалавека складваецца ўсьведамленьне канечнасьці свайго быцьця. Гэта вельмі небясьпечнае ўсьведамленьне, бо яно дэмаралізуе асобу, нараджае пачуцьцё безадказнасьці за свае ўчынкі".

Бог, стварыўшы сьвет, "убачыў, што ўсё вельмі добра"(Быцьцё I:31). Ён бачыў усё тварэньне, як адну цэласьць, у якой кожная частка мае сваё месца і назначэньне. Чалавек займаў асобае месца ў агульным пляне, бо Бог стварыў яго "на свой вобраз і падабенства"(Быцьцё I:27) і даў яму ўладу "над рыбамі марскімі, і птушкамі нябеснымі; над зямлёй і над усякай істотай, што жыве на ёй".(там жа)

Адным з вынікаў першага граху была страта пачуцьця еднасьці тварэньня. Сьвет быццам разьбіўся на маленькія "сьветы", кожны са сваімі асабістымі, карысьлівымі інтарэсамі. Гэта знайшло адбітак у нашых дачыненьнях да навакольнага сьвету, да ўсяго стварэньня якое, паводле слоў Сьвятога Паўла, "стогне і ўздыхае да сёньняшняга дня".(Рым.8:22)

Чалавек ня быў у сілах направіць гэты сумны стан рэчаў, але Бог не пакінуў яго. Ён сам стаўся чалавекам, прыняўшы людзкую прыроду і, злучыўшы яе з боскаю ў асобе Госпада Нашага Ісуса Хрыста, ўзьняў яе да вечнага жыцьця ў дзень Уваскрасеньня. Ён адмяніў вынікі першага граху, даючы нам магчымасьць вярнуцца да першаснага стану і ўдзелу ў Боскім жыцьці. Гэта была перамога над грахом і сьмерцю, але яна была купленая дарагой цаною, менавіта сьмерцю на Крыжы.

Такая лёгіка Божых дачыненьняў да чалавека. Яна вынікае са слоў Хрыста: "Сын Чалавечы не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыцьцё сваё як выкуп за многіх".(Мк 10:45) Ці часам не хацеў Ён гэтым сказаць нешта важнае для нас, асабліва для "сільных гэтага сьвету"? Сярод радасьці Вялікодных сьвяткаваньняў магчыма ня шкодзіла б нам знайсьці час, каб глыбей задумацца над значэньнем маленькага слова "служыць".

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

а. Аляксандар Надсон

Вялікдзень 1989

Сьвяцейшы Айцец Ян Павал II 11 сакавіка 1989 г. назначыў Дарадчыкаў Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Сярод іх знаходзіцца і Апостальскі Адміністратар для Беларусаў-Каталікаў па-за Беларусьсю айцец Аляксандар Надсон.

## ХРОНІКА
(сакавік)

### I. ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

У сакавіку Ян Павал II меў кожнае серады тыдня сваю агульную аўдыенцыю ў Ватыкане. Вось тэмы яго разважаньняў:

I 03. "Уваскрасеньне: гэта гістарычнае здарэньне ды адначасна здарэньне, якое перавышае гісторыю".

8 03. "Уваскрасеньне- завяршэньне Аб'яўленьня".

15 03. "Збаўчае значэньне ўваскрасеньня".

22 03. Папа гаварыў аб значэньні Пасхі.

29 03. Гаварыў аб абавязку пасхальнага сьведчаньня хрысьціяніна.

Кожнай нядзелі месяца сакавіка Яго Сьвятасьць адгаворваў разам з вернючымі Багародзічную малітву "Анёл Гасподні", якую заўсёды папярэджваў прамовамі. Вось пра што гаварыў Папа:

5 03. Разважаў чацьвёртую таямніцу Балючага Ружанца: Ісус ідзе дарогаю да Кальвары.

12 03. Разважаў пятую таямніцу Балючага Ружанца: Ісус памірае на Крыжы.

19 03. У першай частцы гаварыў аб Вялікім Тыдні а ў другой аб Міжнародным Дні Моладзі.

26 03. Не было

У суботу 4 сакавіка Папа спаткаў членаў Асацыяцыі італьянскіх каталіцкіх лекараў.

Ад серады 8 да суботы II сакавіка мелі месца ў Ватыкане спатканьні паміж прадстаўнікамі Амэрыканскага Эпіскапату а Сьвяцейшым Айцом і яго супрацоўнікамі.

У пасланьні з нагоды Вялікага Посту, Ян Павал II запрапанаваў як тэму меркаваньняў- праблему голаду ў сьвеце.

I8 сакавіка Папа спаткаўся з рымскаю моладаю з нагоды Чацьвёртага Сусьветнага Дня Моладзі.

I9 сакавіка ў Вербную Нядзелю Яго Сьвятасьць адслужыў на Плошчы Сьвятога Пятра ўрачыстую Літургію, перад якой была працэсыя з пальмамі, якая ўвекавечвала ўезд Хрыста да Ерусаліму.

У Вялікі Чацьвер 22 сакавіка Папа раніцай адправіў Сьвятую Літургію-Імшу з пасьвячэньнем "Сьвятога Алею", а вечарам у Базыліцы Сьвятога Яна Лятаранскага адправіў "Гасподнюю Вячэру".

У Вялікую Пятніцу 24 сакавіка спачатку пад вечар адправіў ў Базыліцы Сьвятога Пятра Багаслужбу "Гасподніх Мукаў" з адарацыяю Сьвятога Крыжа, а вечарам з рымскага Каліссэя вёў "Крыжовую Дарогу".

У Вялікую Суботу вечарам адслужыў "Вялікодную Вігілію".

На Вялікдзень раніцай Ян Павал II адслужыў на Плошчы Сьвятога Пятра Вялікодную Літургію, посьле якой з балкону Базылікі сказаў сваё вялікоднае слова і надзяліў Апостальскае блаславеньне "Урбі эт Орбі" (гораду Рыму і сьвету). Посьле вялікодных сьвятаў Папа паехаў на кароткі адпачынак у Кастэль Гандольфо- сваей летняй рэзыдэнцыі.

## II. ГУТАРКІ И ВЕСТКІ

У сакавіку мы адзначылі наступныя гадавіны:

- I25 угодкі сьмерці Кастуся Каліноўскага.
- 25 угодкі сьмерці Міколы Чуркіна.
- 45 угодкі сьмерці Пятра Простага.
- 80 гадавіну з дня нараджэньня Лукаша Калюгі.

Важнейшыя гутаркі и паведамленьні:

- Месячны намер малітвы Сьвяцейшага Айца на Сакавік: за ахвяраў канфліктаў і гвалтаў, асабліва ў Паўднёвай Афрыцы і на Блізкім Усходзе.
- Аб агульнай сітуацыі ў Балтыйскіх краінах.
- НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА Ў САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВЕ- дакумант аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі (працяг)

- Нарысы з царкоўнага жыцьця на Мадзяршчыне- працяг
- Аб перанясеньні мошчаў Сьвятога Казіміра да віленскай Катэдры.
- Аб свабодзе сумленьня ў Савецкім Саюзе.
- Аб сьвяткаваньні Вялікадня католікамі ў Савецкім Саюзе.
- Замежны доўг краін Трэцяга Сьвету.

Апрача таго, як заўсёды, сталымі часткамі нашых праграм зьяўляюцца суботнія і нядзельныя рэлігійныя гутаркі. Кожнай серады перадавалі адрэзкі "Гісторыі Беларусі" а ў панядзелак чыталі "Гісторыю Новага Запавету".

## 78 УГОДКІ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ АРХІМАНДРЫТА ЛЬВА ГАРОШКІ

Частка 2

"Ад маленьства я меў два розныя жаданьні: або стацца лекарам, або інжынерам мэханікам- піша а.Леў у сваіх успамінах. Цяпер, маючы матуральнае пасьведчаньне прырода-матэматычнага тыпу без лацінскае і грэцкае моваў- мэдыцына адпала. Я адразу пастанавіў шукаць добрую палітэхніку".

Бог аднак пакіраваў зусім інакш. Быццам прыпадкова, але беспаваротна цераз пасрэдніцтва ўспомненага ўжо І. Цеханоўскага, дырэктара гімназіі і Антона Луцкевіча, дырэктара беларускага музэю ў Вільні, Леў Гарошка трапіў у Львоў у Грэцка-Каталіцкую Багаслоўскую Акадэмію, якой рэктарам быў тады др.Язэп Сьліпый, памёршы ўжо Мітрапаліт і Кардынал. Студыі ў Акадэміі вяліся на высокім узроўні. Найлепшай гарантыяй добрай яе славы былі гэткія волаты духа веды і сьвятасьці, як яе закладчык Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі, вялікі дабрадзей беларусаў у тым ліку і новага студэнта Льва Гарошкі; др.Язэп Сліпый, прафэсары айцы Ішчак, Лаба і іншыя".

Варта заўважыць, што Леў Гарошка быў прыняты ў Каталіцкую Акадэмію без ніякіх "адрачэньняў" ад праваслаўя і "пераходу" ў каталіцтва. Паводле цьверджаньня айца Льва, блізу ніхто з вучняў Наваградзкай Беларускай Гімназіі ня прызнаваў тых царскіх актаў, якія сілаю беларусам былі накінутыя. Таму дастаткова было пашырыць гэты пагляд і аднесьці яго да вуніі, якая таксама насільна была царом скасавана ў 1839 г. Некаторыя з вучняў, у тым ліку і Гарошка, былі пасьлядоўныя ў сваіх думках і вунію лічылі сваею верай або прынамсі з ідэяй аднаўленьня пагаджаліся. Таму для Гарошкі, афіцыяльна праваслаўнага, не было супярэчнасьцю ўступіць ў названую вышэй Акадэмію. Чуўся ён там як дома, хоць было там таксама нямала іншых цяжкасьцяў, прыкладам, недахоп лацінскай і грэцкай моваў, якіх у гімназіі прырода-матэматычнага тыпу зусім не было.

У Акадэміі прабыў а.Леў 5 гадоў: 1931-1936. Апрача звычайнага курсу філязофіі і багаслоўя ў Акадэміі былі надабавязкавыя лекцыі і сэмінары, прыкладам з гісторыі Царквы, царкоўна-славянскае мовы і іншыя. З іх шмат карыстаў студэнт Гарошка. Ён таксама чытаў даклады, на працягу цэлага тыдня для шматлікіх украінскіх студэнтаў аб беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці. У Акадэміі падобна як і ў гімназіі мусіў падзарабляць. Дапамагала ў гэтым суполка зарганізаваная сярод студэнтаў дзеля выдаваньня скрыптаў, якой дзейным сябрам быў а.Леў. Будучы слухачом гістарычнага сэмінара, пісаў працу на тэму Полацкай Каталіцкай Эпархіі 18 стагоддзя пад кіраўніц-

твам праф. Чубатага. Праца гэта атрымала вельмі добрую ацэнку з боку фэсара. На жаль згінула яна разам з цэннымі сабранымі матэрыяламі ў час апошняй вайны.

Айцец Гарошка будучы студэнтам Багаслоўскай Акадэміі павінен быў знайсьці сабе нейкую эпархіі (дыяцэзыю). Як ня дзіўным можа выдавацца, але Мітрапаліт Ялбжыкоўскі (Вільня), якога мітраполія была населеная беларусамі, не захацеў прыняць нашага сьвятара. Згадзіўся на гэта пазьней Біскуп Пінскі Букраба. Сталася гэта тады, калі пасьля львоўскіх студыяў а.Леў быў высланы тымжа Мітрапалітам Шэптыцкім на далейшыя студыі за граніцу ў Інсбрук (Аўстрыя). Тут прабыў наш студэнт толькі адзін год (1936-37). Выкліканы Біскупам Букрабай на бацькаўшчыну, у прыватнай капліцы Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага ў Львове быў рукапаложаны ў сьвятара дня 17 кастрычніка 1937г. Мітрапаліт Андрэй благаславіў свайго студэнта, але сьведама ўстрымаўся ад узлажэньня на яго рук, каб не меў пазьней ў жыцьці рукапаложаны ім сьвятар, ды да гэтага беларус, яшчэ адной лішняй цяжкасьці перад польскімі ўладамі. Жыцьцёвы шлях айца Льва пацьвердзіў растаропнасьць вялікага Мітрапаліта. Льва Гарошку высьвяціў ў сьвятары Біскуп Мікіта Будка

Першая Літургія новавысьвячанага сьвятара адбылася ў Далятычах, дзе парам быў а.Аношка, ў прысутнасьці шматлікага народу і роднага бацькі айца Льва. У жыцьці нашага сьвятара распачаўся новы пэрыяд: служэньня Богу і свайму народу. Умовы да гэтага на сьвеце і на Беларусі былі больш чым цяжкія. На нашай бацькаўшчыне з глуздаў сходзіў польскі шавінізм, на захадзе паношыўся нацызм, а на ўсходзе не зьмяншалася пагроза камунізму. Усё весьціла, што хутка ўдарыць гром і трэба будзе пражыць чалавецтву нябывалы катаклізм. (працяг будзе)

## ДАБРАВЕШЧАНЬНЕ А АКТ 25 САКАВІКА!

Магчыма прыходзілася вам калі быць на вялікім канцэрце, дзе галасы музычных прыладаў, пад кіраўніцтвам умелага дырыгента, зьліваюцца ў адну магутную мэлёдыю, якая перaймае нас да глыбіні душы і пераносіць да вышэйшага, лепшага сьвету. Мы ня чуем у гэтай музыцы гуку паасобных прыладаў, а толькі адно гарманічнае цэлае. Няхай толькі парвецца найменьшая струна ў апошняй скрыпцы і адразу ўрываецца ў музыцы няпрыемны скрыгат, які парушае ўвесь парадак і псуе гармонію.

Нешта падобнае назіраецца ў цэлым сусьвеце, які сваей прыгожасьцю і парадкам адлюстроўвае бесканечны розум Таго, Хто яго стварыў. Сьвет зьяўляецца быццам адной вялікай песьняй на Божую славу. Нядарам натхнёны псальміст, гледзячы на прыгожасьць сьвету, ўсклікнуў у захапленьні:

Нябёсы апавядаюць славу Божую
І Прасторы выяўляюць творчасьць рук Ягоных.
(Пс.18)

Паколькі ўвесь сьвет ёсьць адлюстраваньнем велічы Божай, дык чалавек ёсьць ім у асаблівасьці; бо ўсе рэчы славяць Бога сваім існаваньнем, а людзі хваляць Яго разумна. Таму ў іншым месцы псальміст кажа:

Пляскайце ў далоні, ўсе народы,

Бог аднак есьць бесканечны у сваей дасканаласьці, а мы абмежаваныя. Дзеля гэтага захацеў наш Тварэц падзяліць усіх людзей на асобныя групы, на народы, даючы кожнаму з іх сваю мову, характар і іншыя асаблівыя дараваньні. Разьвіваючы гэтыя даныя яму ад Бога дары, кожны народ гэтым самым хваліць свайго Тварца, а ўсе яны зьліваюцца ў адну магутную песьню на Божую славу. У гэтым вялікім хоры, быццам у вялікай сям'і, няма нікога лішняга: кожны мае сваё належнае месца і вы ня можаце выкінуць нікога, не папсаваўшы гармоніі.

Падзяліўшы людзей на народы, Уседобры Бог улажыў у сэрца кожнага чалавека асаблівую любоў да таго краю, дзе радзіліся ягоныя бацькі; любоў да народу, які жыве ў гэтым краю, а таксама да мовы, на якой гаворыць гэты народ і на якой ён сам пачуў першыя ласкавыя словы з вуснаў сваей маці. Мы завем гэты край "Бацькаўшчынай".

Слова "Бацькаўшчына" паходзіць ад "бацькі". Ці-ж можа быць даражэйшае слова ў нашым слоўніку? Бацькам, або Айцом Нябесным, мы называем Бога, які нас стварыў. Бацькамі мы называем тых найдаражэйшых нам людзей, якія нам далі гэтае дачаснае жыцьцё. Дык і Бацькаўшчына таксама цесна зьвязана з дарам жыцьця, бо інакш мы-б яе так не назвалі. Праўда, яна нам не дае жыцьця, але затое мы ўрасьлі ў яе, быццам дрэва карэньмі, і чэрпаем з яе жыватворчыя сокі. Бо толькі на грунце Бацькаўшчыны, у акружэньні свайго народу, агрэтыя цёплымі праменьнямі роднае мовы, мы можам вырасьці на паўнавартасных адзінак. Нешчасьлівы той, хто дабравольна адрэзвае сябе ад гэтых родных жыватворчых крыніцаў і прадаецца чужынцам: ён быццам бясплоднае дрэва, якое ніколі ня можа поўнасьцю расьцьвісьці і прынесьці пладоў. Любоў Бацькаўшчыны ёсьць нечымсьці прыродным для чалавека, дарам Божым. Таму той, хто цураецца сваей бацькаўшчыны, зьяўляецца выродкам.

Калі-б хто сумняваўся ў гэтым, дык хай паслухае, што кажа сьвяты Павал. Гэты вялікі Апостал, які столькі папрацаваў сярод іншых народаў дзеля праўды Хрыстовай і які ўканцы аддаў сваё жыцьцё за Хрыста, праз усё жыцьцё аставаўся патрыётам жыдоўскага народу. Наскольки вялікая была ягоная любоў свайго народу, мы можам бачыць у ягоным лісьце да Рымлянаў: "Праўду кажу ў Хрысьце, не маню; сьведчыць мне сумленьне маё ў Духу Сьвятым, што вялікі для мяне сум і мука няўстанная сэрцу майму: бо я-б хацеў сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных мне целам, якія ёсьць Ізраільцыяне" (Рым.9,I-3)

У сьвятле вышэй сказанага як-жа праўдзіва і прыгожа гучаць словы нашага вялікага паэта Францішка Багушэвіча: "Мова наша сьвятая, бо яна нам ад Бога даная".

У вялікай сям'і народаў сьвету ёсьць таксама і Беларускі Народ. Раз Бог захацеў, каб Беларускі народ існаваў, дык у сваім адвечным пляне Бог мае для яго асобае месца і мэту. Відаць, наш народ мае свае асаблівасьці і дары, якія робяць яго іншым ад другіх народаў. Не даваць яму жыць свабодна і разьвіваць гэтыя Божыя дары ёсьць безумоўна грахом і праступкам.

Калі 7I год таму назад, 25 САКАВІКА I9I8 году, Беларускі Народ заявіў, што хоча быць гаспадаром свайго лёсу, ён дамагаўся толькі таго, што яму па справядлівасьці належыцца. Ён хацеў быць тым, чым яго стварыў Бог.

Таму гэты дзень зьяўляецца для ўсіх беларусаў, дзе-б яны ня былі, сі... лам іхніх найбольш запаветных імкненьняў.

Так ёсьць на гэтым сьвеце, што калі мы збунтуемся супроць Бога, дык мы таксама становімся ворагамі іншых людзей, бо тады для нас няма нічога сьвятога, акрамя собскага інтарэсу. У адносінах паміж народамі гэта праяўляецца ў форме неабмежаванага шавінізму, які змушае людзей лічыць свой народ за найлепшы і адмаўляе права на існаваньне іншым.

Беларускаму народу было якраз адмоўлена права на існаваньне. Маладая беларуская дзяржава была здушаная перад тым, чым яна магла акрэпнуць. Аднак мы не павінны зайздросьціць лёсу тых, якія не далі нам жыць свабодна. Не шукайма таксама помсты: супраць іх сьведчаць перад Богам сьлёзы і цярпеньні мільёнаў тых, якіх яны анешчасьлівілі. Лепш малемся за іх, каб яны зноў зьвярнулі свае сэрцы да Бога і каб адзін дзень мы ўсе маглі быць тым, чым мы павінны быць: дзяцьмі адной сям'і, дзе бацькам ёсьць сам Бог.

Адначасова верым у справядлівасьць Божую. Дамагаймася таго, што нам справядліва належыцца і Бог нам дапаможа. Гэтая вера ў справядлівасьць Божую і надзея на лепшую долю Беларускага Народу асабліва патрэбная нам тут на эміграцыі. Будучы адарванымі ад Бацькаўшчыны і акружанымі столькімі спакусамі, мы можам вельмі лёгка зьняверыцца і пакінуць усё беларускае. Не рабім гэтага. Беларусь патрэбная перадусім для нас самых. Калі мы забудземся пра яе, дык мы страцім нешта з нашай чалавечай вартасьці: нам тады не астанецца нічога іншага, як уключыцца ў вялікую масу тых, чыёй адзінай мэтай жыцьця ёсьць пагоня за матарыяльным дабрабытам. Але Беларус таксама патрабуе нас. Не забывайма, чаму мы цяпер на чужыне і што мы апынуліся тут не дабравольна. Памятайма аб нашых братах на Бацькаўшчыне і будзем рабіць тое на карысьць Беларусі, чаго яны там ня ў стане цяпер рабіць. Мы павінны быць амбасадарамі Беларусі ў вольным сьвеце, не даючы заснуць сумленьню іншых народаў і пагадзіцца з фактам, што наша Бацькаўшчына да гэтага часу церпіць ў няволі.

## ІТАЛЬЯНСКІЯ ГАЗЭТЫ ПРА ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў МЕНСКУ 25 САКАВІКА 1989г.

Амаль усе італьянскія газэты 3І сакавіка пісалі аб дэманстрацыях у Менску, якія адбыліся, як ведама, 25 сакавіка. Усе пісалі прыблізна наступнае:

"Сτычкі з міліцыяю і 2І асоба арыштаваная-гэта баланс не аўтарызаванай нацыяналістычнай маніфэстацыі, якая адбылася ў Менску, ў суботу 25 сакавіка з нагоды 7І гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Так піша газэта "Советская Белоруссия", паводле якой двух чыноўнікаў міліцыі было брутальна пабітых дэманстрантамі, пад-час калі ніхто з удзельнікаў маніфэстацыі пацярпеў цялесныя пакалечаньні. Тая самая газэта аднак запярэчвае пагалоскі, што ў гэтых стычках з міліцыяю мела б быць параненых дзесяткі асоб. Маніфэстацыя ёсьць акрэсьлена газэтай як "нацыяналістычная і антысацыялістычная", таму што ўшаноўвала АКТ 25 САКАВІКА, калі была абвешчана БНР.

Цэлы час паводле газэты "Советская Белоруссия" некалькі соцень моладзі сабралася каля Беларускага дзяржаўнага інстытута тэатру і мастацтва, каб зарганізаваць мітынг, трымаючы ў руках бел-чырвона-белыя сьцягі і транспарэнты з напісамі, якія газэта ўважае, што мелі яўны антысацыялістычны і нацыяналістычны характар. Міліцыя намагалася пераканаць дэманстрантаў палажыць канец неаўтарызаванаму мітынгу, але яго ўдзельнікі перайшлі пад выдавецкі дом, блакіруючы такім чынам гарадзкі рух. Паводле газэты былі стычкі з міліцыяю, якая намагалася адблякаваць гарадзкі рух. Мелі месца некаторыя інцыдэнты пад-час якіх адзінымі параненымі было двух чыноўнікаў міліцыі, але паводле запярэчаных тою самаю газэтаю чутак, у інцыдэнтах мела б быць параненых "дзесяткі асоб". Газэта піша пазьней, што была арыштавана 21 асоба, частка з якіх атрымала прыгавор на 5 дзён вязьніцы за хуліганства ў публічным месцы. Адносна іншых арыштаваных асоб адкрыта судавое сьледства, а яшчэ іншыя арыштаваныя асобы атрымалі адміністрацыйныя кары за нарушэньне публічнага парадку і за аказваньне супраціўленьня міліцыі.

## КАРДЫНАЛ СЛАДКЕВІЧУС АБ СІТУАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ!

У інтэрв'ю дадзенаму італьянскаму часопісу 30 джорні (дзён), нумар 3, сакавік 1989г. літоўскі кардынал сьцвярджае наступнае:

Пытаньне

У адным з інтэрв'ю апублікаваным у "Оссэрваторэ Романо", посьле свайго павароту з Беларусі, кардынал Глемп сьцвердзіў: "Хочам наладзіць зносіны з літоўскім эпіскапатам, каб магчы высьніць некаторыя пытаньні з усёю шчырасьцю, якая павінна характарызаваць духоўных". Аб якіх пытаньнях ідзе справа.

Адказ

Няма праблемаў з Польскім Эпіскапатам. Трэба ўзяць пад увагу, што Літва жыла за "жалезнаю футрынаю". Было забаронена мець зносіны з Польшчаю, бо на гэта не дазваляў урад. Цяпер кантакты паволі аднаўляюцца нанава і я маю зносіны з польскім духавенствам. Мы прыймаем таксама візіты з Польшчы. Праўдападобна пытаньне аб якім гаворыць кардынал Глемп, які быў на Беларусі, ёсьць натуры этнічна-нацыянальнай. Адна частка Беларусі належыць да Расеі а другая да Польшчы. Да Літвы не належыць нічога, але існуе праблема з духоўнымі асобамі. Сьвятары адукаваныя на Літве вядуць таксама сваю душпастырскую працу на Беларусі. Палякі сьцвярджаюць, што на Беларусі жывуць толькі палякі і што беларусы не існуюць і дзеля гэтага хочуць высылаць на Беларусь толькі польскіх сьвятароў. Праблема ёсьць ў тым, што беларусы не хочуць польскіх сьвятароў. Лепш жадаюць літоўскіх, як за царскіх часоў. Палякі мелі заўсёды схільнасьці быць нашымі пратэктарамі, але літоўцы не згаджаюцца з гэтым. Палякі каторыя жывуць на Літве маюць свае Цэрквы і ёсьць абслугоўваныя сваімі сьвятарамі.